



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета».

12+

29 чэрвеня 2018 года №26 (1209)


## З Днём Вызвалення!

Праграма святкавання ў Маладзечне – на старонцы 21

# Ад кляшчоў ужо пацярпела больш за 100 чалавек толькі на Маладзечаншчыне

## Пераважна – дзеці



**Ужо чатыры жыхары заразіліся хваробай Лайма**

старонка 20

Фота pxhere.com.



ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





**У Вілейцы спецыялісты разам з валанцёрамі правяралі, ці дбаюць жыхары аб экалогіі ў паўсядзённым жыцці**



старонка 21

# Украінскі пасол Ігар Кізім усклаў кветкі да помніка Піліпу Орліку ў Касуце

**Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Украіны ў Беларусі ўсклаў кветкі да мемарыяльнага знака аўтару першай украінскай канстытуцыі Піліпу Орліку на яго радзіме ў вёсцы Касута паблізу Вілейкі.**

Традыцыйна ўшаноўваюць памяць нашага агульнага героя напярэдадні Дня Канстытуцыі Украіны, які адзначаецца 28 чэрвеня.

На радзіму Піліпа Орліка прыехалі таксама першы сакратар дыппрадстаўніцтва **Іван Башняк,** старшыня Беларускага грамадскага аб'яднання «Ватра» **Віктар Гутоўскі,** кіраўнік мінскага грамадскага аб'яднання «Запавіт» **Галіна Калюжная,** старшыня маладзечанскага таварыства ўкраінцаў **Леанід Лысакабылка.** Ад вілейскіх улад ва ўрачыстасцях прыняла ўдзел намеснік старшыні райвыканкама **Святлана Дзяруга.**

**Аддзел інфармацыі.**


Фота забяспечанае Леанідам ЛЫСАКАБЫЛКАМ.

Украінскі Пасол Ігар Кізім (справа ад помніка) і дэлегацыя украінцаў 26 чэрвеня у Касуце.

# Завысілі кошт будоўлі на 14 тысяч рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю пры праверцы таварыства «ПМК-212» знайшоў парушэнні. Сярод іх – завышэнне кошту будаўніча-мантажных работ, скажэнне звестак для дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці, парушэнні будаўнічага заканадаўства.**




Парушэнні таварыства прывялі да шэрагу штрафаў.

Фота pmk-212.by.

Дзякуючы контрольнаму абмеру дома заўважылі, што цану на будаўніча-мантажныя работы завысілі больш, чым на 14 тысяч рублёў. Прычына павышэння – памылкі праектнай арганізацыі пры складанні праектна-каштарыснай дакументацыі.

Пясчана-жвіровая сумесь на агульную суму больш за 40 тысяч рублёў закуплялася без правядзення працэдуры закупак. Сумесь скарысталі для аднаго з аб'ектаў інжынернай інфраструктуры, што фінансуецца за кошт сродкаў бюджэту.

На тэрыторыі будаўнічай пляцоўкі аб'екта «Інжынерныя сеткі раёна індывідуальнай забудовы паўднёвай часткі Маладзечна» ў вёсцы Рагазы ў момант кантрольнага агляду адсутнічаў шэраг неабходных мер. Гэта схема руху транспарту, дарожныя знакі. У журнале вытворчасці работ не рабілі апісанні будаўнічых работ па канструктыўных элементах збудаванняў.

Інертныя будаўнічыя матэрыялы і жалезабетонныя трубы ліўневай каналізацыі складвалі па-за месцамі, прадугледжанымі праектам вытворчасці работ і праектам арганізацыі будаўніцтва. Жалезабетонныя трубы складвалі на грунце без упораў і паддонаў, чым парушылі патрабаванні Тэхнічнага кодэкса.

Даючы звесткі для дзяржаўнай статыстычнай справаздачнасці, знізілі дэбіторскую запазычанасць на 29 тысяч рублёў, а крэдыторскую – на 110 тысяч.

За парушэнні 17 службовых асоб і таварыства аштрафавалі на суму больш за 19 тысяч рублёў. За завышэнне кошту будаўніча-мантажных работ праектная арганізацыя і заказчык будаўніцтва аштрафаваны больш за сем тысяч рублёў.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржаўнага кантролю.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 21.06 | 28.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0052 | **1.9980** |
| Еўра | 2.3197 | **2.3283** |
| Злоты, 10 | 5.3729 | **5.3611** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1516 | **3.1640** |
| Грыўня, 100 | 7.5696 | **7.5941** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **20.06** | **27.06** |
| Еўра | 2.3106/2.3306 | **2.3170/2.3350** |
| Долар ЗША | 2.0000/2.0180 | **1.9860/2.0020** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 20.06 | 27.06 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,68 | **18,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | **1,60** |
| Алей «Залатая семачка», 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,90 | **3,50** |
| Бульба, 1 кг | 1,20 | **1,30** |
| Буракі, 1 кг | 1,70 | **1,50** |
| Капуста, 1 кг | 1,00 | **0,90** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,20 | **1,30** |
| Морква, 1 кг | 1,70 | **1,50** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **2,20** |
| Перац, 1 кг | 5,50 | **3,10** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | **1,10** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 3,30 | **3,80** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 4,80 | **4,90** |
| Гранаты, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **3,20** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,50 | **3,20** |
| Кавун, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Ківі, 1 кг | 5,50 | **3,20** |
| Клубніцы, 1 кг | 2,70 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,80 | **4,80** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Чарэшня, 1 кг | 4,50 | **4,20** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,95 | **2,40** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

# Віляйчане запрашаюць далучыцца да акцыі «Кругазварот рэчаў у Вілейцы»

ВІЛЕЙКА

**Вазоны, рыбкі, астаткі шпалераў, кніжкі і каляровыя алоўкі – усё гэта знойдуць, як скарыстаць з карысцю і каб прыносіла радасць новым гаспадарам.**

Калі выкінуць шкада, а аддаць няма каму, калі гэта сітуацыя пра вас, тады збірайце рэчы і нясіце ў цэнтр дадатковай адукацыі па вуліцы Савецкай, 54. І добрую справу зробіце, і ў доме стане лягчэй дыхаць без лішніх рэчаў.

Калі дзеці выраслі, а засталіся цацкі і кнігі ў добрым стане. Ці вы рабілі рамонт, або на вытворчасці засталіся адходы, якія можна прымяніць і зрабіць штосьці карыснае? Работнікі цэнтра будуць удзячны за ўсё гэта, а таксама за ідэі, як можна скарыстаць матэрыялы другі раз.

На гуртках у цэнтры спатрэбяцца:

- настольныя і развіццёвыя гульні, канструктары, кубікі, пазлы
- энцыклапедыі і кнігі для дзяцей
- кнігі пра жывёл і расліны
- каляровыя алоўкі, пэндзлі, фарбы і гуаш
- спартыўны інвентар
- канапкі, крэслы і часопісныя столікі
- камп'ютары, што былі ў карыстанні.

Вы можаце перадаць у добрыя рукі:

- пакаёвыя расліны
- маленькіх гадаванцаў для жывога кутка (хамячкоў, марскіх свінак, папугайчыкаў)
- рыбак і расліны для акварыума.

Перадайце ў рукі майстрам:

- астаткі скуры, скуразамяняльнікаў, тканіны, футра
- астаткі шпалераў
- дрот для пляцення бісерам
- трубкі ад лінолеуму
- абрэзкі фанеры і ДВП
- дробныя металічныя дэталі – гайкі, балты, шрубы, шасцяронкі для карцін у стылі «стымпанк».

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: 8 (01771) **543-75.**

**Аддзел інфармацыі.**

# Нёман мялее – такой засухі не было 70 гадоў

**Цёплая вясна і гарачы чэрвень – па словах сіноптыкаў, такога засушлівага надвор'я ў вобласці ў гэты час не было больш за 70 гадоў, паведамляе АНТ.**

Стан ракі гідролагі правяраюць двойчы ў дзень. Узровень вады пачаў імкліва падаць яшчэ ў маі. І да гэтага часу сітуацыя застаецца складанай.

Суднаходства на Нёмане прыпыненае.

Трохі лепш сітуацыя на поўначы рэгіёна – у Астраўцы і Ашмянах. Там яшчэ захавалася вільгаць у глебе.

Цёплая вясна, сухі май і гарачы чэрвень – такога надвор'я, запэўніваюць сіноптыкі, не было з часоў заканчэння Вялікай Айчыннай вайны.

Уздоўж берагоў стаіць непрыемны пах з-за падсыхаючага дна і ціны. Мясцовыя распавядаюць: некалі паўнаводны Нёман цяпер месцамі можна перайсці ўброд – вады па калена. Рака змялела настолькі, што ў межах Гродна на паверхню выбраліся нават апоры старых драўляных мастоў і прыстаняў, пабудаваных яшчэ ў пачатку 20 стагоддзя.

У лясах Гродзенскай вобласці ўстаноўлены максімальны пяты ўзровень пажарнай небяспекі. Уваход – пад найстрогай забаронай.

**Паводле АНТ.**

## Пенсіянера падазраюць у вырошчванні канопляў

### У парніку, сярод памідораў

МАЛАДЗЕЧНА

**У ходзе праграмы «Мак» супрацоўнікі наркакантролю Маладзечанскага РАУС знайшлі факт незаконнага пасеву нарказмяшчальнай расліны роду «канабіс» у вёсцы Рабінавая.**

Паводле атрыманай інфармацыі, проста на дачным участку 72-гадовы пенсіянер уладкаваў міні-плантацыю па вырошчванні марыхуаны. Сама плантацыя, якая складаецца з пяці кустоў, размяшчалася ў парніку. «Наркасадавод» спрабаваў замаскіраваць кусты канопляў пад памідоры, вырошчваючы два віды расліны ў адной цяпліцы.

У ходзе агляду дома аператыўнікі знайшлі і канфіскавалі прыстасаванне для курэння, бляшаначкі, у якіх захоўвалася зелле, а таксама расстаўленыя па ўсім доме тазікі, напоўненыя высушанай «травой». Усяго знайшлі і канфіскавалі больш за кілаграм марыхуаны і пяць кустоў канопляў, растлумачыў начальнік аддзела наркакантролю і процідзеяння гандлю людзьмі Маладзечанскага РАУС **Дзмітры Сухоцкі.**

Першапачатковая праца з затрыманым дае падставы меркаваць, што фігурант вырошчваў незаконную расліну выключна для сябе, патлумачыўшы, што захапіўся да курэння марыхуаны яшчэ ў маладосці.

Цяпер у дачыненні да яго распачатая крымінальная справа па артыкуле «Незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў і прэкурсораў», санкцыя якога прадугледжвае пазбаўленне волі тэрмінам да пяці гадоў.

**Варта памятаць, што незаконнае вырошчванне забароненых раслін цягне за сабой крымінальную адказнасць, пазбегнуць якую можна толькі ў выпадку добраахвотнай здачы наркотыку.**

Калі вам сталі вядомыя факты незаконнага абароту наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў, супрацоўнікі ўпраўлення наркакантролю і процідзеяння гандлю людзьмі просяць вас паведамляць аб усіх вядомых фактах па тэлефоне 102.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

# Непаўнагадовых хлопцаў асудзілі за крадзеж металалому

АСТРАВЕЦ

**Абодва асуджаныя – непаўнагадовыя навучэнцы каледжаў з Астравецкага раёна.**


Фота rus.ozodlik.org.

Непаўнагадовыя хлопцы за металалом атрымалі судзімасць.

Два хлопцы дамовіліся абакрасці адзін з дамоў у вёсцы Грышкойці. Здарэнне адбылося ў лістападзе мінулага года. Каля 11 гадзін яны прыехалі на бензінавым культыватары ў вясковы сад. У прычэп пагрузілі чацвёра дзвярэй ад сінега «Масквіча-412». Дзверы ацэньваюцца каля 13 рублёў.

Пагрузілі і чатыры металічныя спінкі ад ложка агульнай цаной у шэсць рублёў.

Скрадзенае выгрузілі ў двары аднаго з загаворшчыкаў. У 15 гадзін яны вярнуліся ў сад ужо з сякерай. Раздзялілі кузаў таго самага «Масквіча» на дзве часткі, каб было зручней пагрузіць у культыватар і вывезці.

На наступны дзень яны зноў прыехалі, каб забраць пярэднюю частку кузава вагой 220 кілаграмаў агульнай цаной каля 50 рублёў. Заўважылі чатырохканфорачную газавую пліту цаной тры рублі і таксама пагрузілі ў культыватар.

Усё скрадзенае прывезлі і выгрузілі ў двары аднаго з хлопцаў.

Яшчэ з аднаго суседняга дома скралі двухканфорачную газавую пліту цаной два рублі, пусты газавы балон цаной 15 рублёў, чатыры патэльні на агульную суму дзесяць рублёў.

Пасля паехалі за заднияй часткай «Масквіча», якая каштуе 18 рублёў.

Калі збіраліся вывозіць скрадзенае, іх заўважылі, хлопцаў затрымалі міліцыянеры.

Агулам непаўналетнія нанеслі шкоду амаль у 120 рублёў.

На судзе абодва прызналі віну цалкам. Расказалі, што скрадзенае хацелі здаць як металалом, а грошы скарыстаць для сябе.

Пацярпелая расказала, што разам з сынам прыехала прыглядзець за парадкам у бацькоўскім доме. Убачыла, што ля дома стаіць газавая пліта, балон і чатыры патэльні, а дзверы адчыненыя. Дзверы суседняга дома былі таксама ўзламаныя. Яна пазваніла ў міліцыю. Неўзабаве да дамоў пад'ехалі двое хлопцаў, якія пачалі загружаць частку аўтамабіля.

Суд прызнаў хлопцаў вінаватымі. Аднаго – у спробе зрабіць крадзеж групай людзей, другога – у тым жа з пранікненнем у жыллё. Абодва атрымалі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды на год. Аднак прызначанае пакаранне не будуць прыводзіць у дзеянне, калі хлопцы цягам года не ўчыняць новае злачынства і будуць выконваць ускладзеныя абавязкі. Таксама цягам 60 гадзін яны павінны выконваць грамадскія работы.

Хлопцы падалі апеляцыю, назваўшы прыгавор празмерна суровым. Абласны суд не задаволіў іх скаргі.

**Анастасія ЮРКОЙЦЬ, старшы памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

● УВАГА, ВЫШУК!

## Знікла жанчына з Маладзечанскага раёна

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі райаддзел міліцыі шукае зніклую Генорцыю Віктараўну Салагуб.**

Яна нарадзілася 22 снежня 1951 года. Жыве ў Маладзечне па вуліцы Будаўнікоў.

22 чэрвеня ў прамежку часу ад 7 да 18 гадзін сышла з дому. Дагэтуль невядома, дзе яна.

Жанчыне на выгляд 66 год, рост 160-174 сантыметры. Сярэдні целасклад, светлы твар, блакітныя вочы. Кароткія валасы, пафарбаваныя ў светлы тон.

На момант знікнення была апранутая ў бэжавую куртку, чорныя штаны, цёмна-сінюю блузу, чорныя паўчаравікі. Мела пры сабе чорную сумку.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра яе месцазнаходжанне, паведаміце ў міліцыю па нумарах: **8 (0176) 74-96-83, 77-16-56,** 8 (029) **555-49-71** ці **102**.

## Смаргонец так ударыў жанчыну па шчацэ, што тая атрымала чэрапна-мазгавую траўму

СМАРГОНЬ

У Смаргоні пасварыліся 56-гадовы мужчына і 38-гадовая жанчына, якія жывуць разам.

Канфлікт узнік на роўным месцы і без алкаголю.

Усё адбылося бліжэй да вечара 21 чэрвеня ў кватэры, дзе абое жывуць. Каля 18 гадзін узнікла сварка. Даволі доўга лаяліся, пасля ў мужчыны здалі нервы. Ён ударыў сужыцельніцу далонню па твары, але не думаў, што рука апынецца ў літаральным сэнсе такой цяжкай. Ад аплявухі жанчына не магла выстаяць на нагах, а яно і не дзіўна, бо ўдар далонню быў такой сілы, што прычыніў пацярпелай закрытую чэрапна-мазгавую траўму.

Цяпер жанчына ў бальніцы, а ўладальнік звышцяжкай далоні затрыманы, у дачыненні да яго ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле «Наўмыснае прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання».

**Паводле УУС Гроднааблвыканкама.**

## Дзяўчына ў Маладзечне скокнула з моста

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося вечарам у суботу, 23 чэрвеня.

Падрабязней пра выпадак расказала афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

16-гадовая жыхарка Маладзечаншчыны скокнула з моста. Дзяўчыну шпіталізавалі.

Следчы камітэт высвятляе абставіны падзення з вышыні. Наколькі вядома на сёння, прычына палягае ў асабістых матывах.

Следчыя праводзяць праверку.

## З трэцяга паверха выпала пяцігадовая дзяўчынка

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося вечарам у пятніцу, 22 чэрвеня.

Пяцігадовая дзяўчынка выпала з акна інтэрната па вуліцы Замкавай.

Як расказалі ў хірургічным аддзяленні Маладзечанскай бальніцы, яе стан сярэдняй цяжкасці. Яна добра сябе адчувае і актыўная.

Аднак пра тое, як здарэнне адбылося, пакуль няма яснасці. У паказаннях блытаецца і дзяўчынка, і яе мама.

Медыкі патлумачылі, што дзяўчынка атрымала пераломы.

Аднак, запэўнілі дактары, дзяўчынка паправіцца і будзе бегаць.

## На Астравеччыне пры пажары загінуў пенсіянер

АСТРАВЕЦ

Здарэнне адбылося ноччу 25 чэрвеня на хутары каля Літвянаў.

Пажар заўважылі жыхары дома, які знаходзіцца за 500 метраў ад месца здарэння. Драўляны жылы дом гараў адкрытым полымем, дах абрынуўся ўнутр.

Падчас тушэння пажару пад абломкамі байцы МНС знайшлі загінулага 69-гадовага гаспадара. На момант узгарання ён быў дома адзін, жонка – у дачкі ў суседняй вёсцы.

Агнём знішчаны дах, перакрыцце, маёмасць у доме, пашкоджаныя сцены. Прычына пажару высвятляецца, разглядаецца версія неасцярожнасці гаспадара пры курэнні.

**Паводле МНС.**



Лета, нават самае непагодлівае або спякотнае, не падстава адмовіцца ад догляду за магіламі блізкіх. Мы полем пустазелле, падмятаем тэрыторыю. Але як мыць і чысціць помнік, каб ён выглядаў прыгожым, і не пашкодзіць надмагілле? Што рабіць, калі высвятляецца, што помнік трэснуў ці ўвогуле раскалоўся?

Фота: i-exc.ccm2.net

# Месца нашай памяці:
## як даглядаць за надмагіллямі

Піша Наталля АСМАЛОЎСКАЯ.

### Помнікі: чысціць або мыць?

Ці трэба адмысловае абсталяванне, дарагія вадкасці або пасты і доўгія гадзіны чысткі? Зусім неабавязкова. Мыццё надмагільных пліт не з'яўляецца складаным, і няма неабходнасці марнаваць сродкі, каб надмагіллі нашых блізкіх выглядалі чыста і ахайна. Якія ж найлепшыя спосабы догляду?

**Спецыялісты раяць мыць гранітныя помнікі простай чыстай вадой. Вы можаце дадаць да яе кроплю мыйнай вадкасці, якую выкарыстоўваеце на кухні. Ні ў якім разе нельга карыстацца пастамі для чысткі, тым больш тлустымі або на шчолаку.**

Менавіта яны пакідаюць на помніках плямы, якія ўжо не выдаліць. З іх дапамогай мы хутчэй знішчым надмагілле, чым яго ачысцім.

Складаней падтрымліваць у добрым стане пліты са штучнага граніту або мармуру. Для догляду за імі можна выкарыстоўваць пасту або парашок для чысткі, але яго трэба старанна змываць вадой. Вытворцы помнікаў раяць не пакрываць іх бясколерным лакам, як гэта робяць некаторыя. Гэта прынясе больш шкоды, чым карысці, асабліва калі лак пачынае адслойвацца.

### Часам помнік можна склеіць

Часам пліта ці помнік дае расколіну, абломваецца. Тады лепш запрасіць спецыяліста. Але не заўсёды ёсць на гэта сродкі, або мы заўважаем трэшчыну перад самай Радаўніцай ці Дзядамі. Тым не менш, толькі прафесіянал можа справіцца з рамонтам гранітнага помніка, паколькі ён патрабуе шліфоўкі паверхні. А вось помнікі са штучнага граніту смела можна рамантаваць цэментным растворам або плітачным клеем. Аднак гэта толькі палавіністая мера, таму што прыклееная намі частка неўзабаве зноў можа адваліцца.

Як выдаліць воск, стэарын, парафін з надмагільнага каменя?

З перавернутай ветрам лампадкі на надмагільную пліту выцек стэарын, або васковая свечка пакінула, здавалася б, вечныя плямы. Што рабіць у гэтых выпадках? Парада спецыяліста: ачысціць надмагільны камень, каб ён не быў знішчаны.

Ачысціць граніт ад воску нескладана, але вы павінны зрабіць гэта асцярожна, каб не пашкодзіць пліту.

Часцей за ўсё на беларускіх магілках сёння выкарыстоўваюць для помнікаў граніт. Ён вельмі эфектны. Але, на жаль, лёгка можа быць пашкоджаны гарачым воскам. Таму заўсёды стаўце лампадкі на падстаўках.

### Як жа ачысціць надмагілле ад воску?

1. Лепш за ўсё гэта зрабіць гарачай вадой, спецыяльна прынесенай на могілкі ў вялікім тэрмасе.

2. Калі гэта не дапаможа, паспрабуйце адчысціць воск або стэарын пластыкавым, а яшчэ лепш драўляным скрабком. Будзьце асцярожныя, каб не падрапаць граніт. Затым намачыце месца, дзе быў разліты воск, хлорыстым метыленам. Яго можна знайсці ў магазіне гаспадарчых тавараў ці будаўнічым. Пакіньце сродак на некалькі хвілін. Не забудзьцеся перад гэтай аперацыяй пра гумовыя пальчаткі, таму што рэчыва гэта дастаткова агрэсіўнае і можа пашкодзіць вашы рукі.

3. Ачысціце пляму пэндзлем або тампонам, пратрыце анучай. Варта заліць месца лімонным сокам, затым сабраць яго анучкай і зноў працерці камень.

**Наведвайце месцы памяці і жалобы не толькі напярэдадні святаў і дат, якія ўпісаныя ў гісторыі вашых сем'яў. Дагледжаныя месцы спачыну блізкіх – сведчанне сапраўднай памяці аб тых, хто нас пакінуў.**



Фота: asageblog.files.wordpress.com













# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03**<br>вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ВІНШАВАНКА

**Валяр'яну Ігнатавічу КАВАЛЕВІЧУ з Маладзечна!**

Паважаны Валяр'ян Ігнатавіч! Віншуем вас з днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя, лёгкасці ў душы і целе, незлічонай колькасць незабыўных сустрэч і шчаслівых момантаў.

*Удачы вам, дабра і цеплыні,*
*Настрой каб быў*
*заўсёды ў вас харошы,*
*Каб не ляцелі надта хутка дні*
*І каб не зводзіліся грошы.*

**Калектыў рэдакцыі «Рэгіянальнай газеты».**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Рэкорд па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Ровар дарожны, мотаровар, балон газавы бытавы. Т. (8-0176) 532172, (8-044) 4944849.*

• Рэно-Меган 1997 г. па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Сітраэн С-5, 2002 г.в., хэтчбэк, 2,0 HDI, нюансы па дробязях, 6000 руб., торг. Т. (8-029) 5676832.*

• ФВ-Пасат В3, 1990 г.в., 1,8Б. Т. (8-01771) 53726, (8-029) 5683934.

• ФВ-Пасат, 1991 г.в., 1,8 бензін, па запчастках. Т. (8-029) 6232553.*

• ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО; крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэкапальнік, вібраплiта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,12, корп. 1. Ёсць неабходная мэбля, бытавая тэхніка (халадзільнік, пральная машына), раён завода «Зеніт». Т. (8-029) 9184367.

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, вул. Маркава, 2/2. Т. (8-029) 2507130, (8-029) 2521951.*

• 2-павярховы дом у 3 км ад Смаргоні, 184 кв. м, 23 соткі зямлі, пабудовы. Т. (8-029) 9628737, (8-029) 2053764.

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы з еўрарамонтам. Альбо абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д.16, корпус 1, 4 паверх. Т. (8-029) 5581258.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Чапаева,74, раён «Зеніта». Усе пытанні па тэлефонах: (8-029) 7681486, (8-029) 1576792. Ірына.

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі, альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе альбо мяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693, (8-0176) 531545.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Чкалава. Т. (8-029) 5948745.*

• Гараж ГБПК-5 у Смаргоні, 2000 руб. Т. (8-029) 7875173, (8-01592) 26531.

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дом вялікі ў добрым месцы, 13 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

• Дом паміж Смаргонню і Вілейкай, участак 25 сотак, цана 3000 руб; участак у Вілейцы. Т. (8-029) 7621019, (8-044) 5321975.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у в. Ярмолічы Вілейскага раёна, танна. Т. Вэлком (8-029) 9880334, (8-029) 9815728.*

• Дом у Маладзечне пасля пажару, 80 кв.м, участак 0,6. Гараж, хлеў, лазня не пашкоджаныя. Т. (8-029) 7469707, (8-029) 2582660.*

• Дом у Смаргоні па вул. Трактарнай у добрым раёне, 15 сотак з забудовай, гараж, хлеў, водаправод на ўчастку. Цэнтральны газ і каналізацыя праходзяць каля дома. Альбо мяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Смаргоні ці Маладзечне. Т. (8-029) 6601162, (8-029) 6731333 Іван.*

• Дом цагляны ў вёсцы Кураменец Вілейскага раёна агульнай плошчай больш за 100 кв. м, зямельны ўчастак 40 сотак.Т. (8-029) 5609402.*

• Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*

• Садовы ўчастак, жылы домік. Нядорага. КААП«Брыльянт», каля вёскі, чыгуначны прыпынак Ласі. Т. (8-033) 6407558.*

### ЗДАМ

• Кватэру альбо пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Якасна. ІП Бізюк С.І. УНП 191927410. Т. МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Драбленне пнёў любога дыяметра. Хутка, якасна, нядорага. ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Наносім фота любімых на майку альбо кубак, 9 руб. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т. (8-029) 6631595.*

• Прамысловы альпініст. Уцяпленне кватэр, рамонт швоў, фасадаў. Адкосы, казыркі, адлівы, дахі балконаў, вадасцёкавыя сістэмы. Рамонт, мантаж. Любыя вышынныя работы. Гарантыя – 3 гады. ІП Глаткі А.А. УНП 692021425. Т. (8-033) 3020545.

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

• Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• **СПІЛОЎВАННЕ, АБРЭЗКА ДРЭЎ.** Толькі бяспечныя метады працы. Прафесійная праца супрацоўнікаў. Кансультацыя і ацэнка **БЯСПЛАТНЫЯ.** Працуем больш за 6 гадоў. Спілоўванне + драбленне + копка – **СКІДКА.** ІП Таўгень Е П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830, (8-029) 1724851.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Уцяпленне дамоў (пенапласт, вата), афарбоўка, падшыва. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя, цэгла. Дастаўка. Выгрузка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 1989988, (8-033) 6989980.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошкі для падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Вагонка, дзверы, печы для дома і лазні, дошкі для падлогі, імітацыя бруса. ІП Кусовіч І.І. УНП 691891279. Т. Вэлком (8-029) 9394025.*

• Цэгла (кірпич) шамотная, віцебскі цэх №1. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40, навяснoе, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Абаненцкія карты «Трыкалор» – скідкі! Акцыі! Антэны спадарожнікавыя – вялікі выбар, нізкія цэны. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Антэны спадарожнікавыя «Трыкалор», НТВ+, замена старых прыёмнікаў на новыя. ГПУП «Ліцэраль». УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Мэбля**

• Мэбля б/у для пакоя і кухні, часткова аддам дарма. Т. (8-029) 5523988.

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Адна дойная каза, адна котная, 6-месячны казёл і козачка, авечка котная. Валожынскі раён. Т. (8-029) 6433476.

• Вуллі новыя на 24 рамкі. Т. Вэлком (8-029) 9950326.*

• Індычаняты БІГ-6 і кураняты: бройлерныя КОББ-500, нясушкі, цацаркі. Дастаўка.Т. МТС (8-033) 6908397, Велком (8-029) 6938397.*

• Кныр в'етнамскай пароды альбо абмен. Т. (8-033) 6316635, (8-0176) 503195.

• Падгадаваныя індычаняты, гусяняты, качаняты. Інкубацыйныя яйкі. Т. (8-01771) 46365, МТС (8-029) 2611495.*

• Парасяты в'етнамскія, 60 руб. Т. (8-029) 7098099.*

**Іншае**

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

• **НОЎТБУК,** ЖК-тэлевізар, ЖК-манітор, сістэмны блок, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Арматуру 8, 10, 12 мм, ліст 1,5 – 3 мм. Т. (8-029) 1247481.*

• Кнігу «Памяць», розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Зваршчыкі і слесары па мантажы сантэхсістэм і сістэм пажаратушэння. Заработная плата здзельна-праміяльная. ТАА «Спецпраектсэрвіс». Т. (8-029) 7690016 Александр.

• Падсобны рабочы на сезон: бетон, земляныя работы. Т. (8-025) 7894666.

• Рабочыя будаўнічых спецыяльнасцяў, прараб. ТАА «Стройбай» УНП 692023203. Т. (8-033) 3516839, (8-044) 5186382.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Аддзелачнік. Вялікі досвед працы. Т. (8-029) 2775694.*

• Дэмантаж бетонных збудаванняў. Т. (8-033) 3160206.

• Устаноўка агароджаў. Зварачныя работы. Бетонныя работы. Дэмантажныя работы. Кладка блока, цэглы. Т. (8-044) 7556706, (8-029) 8521268.

**«Рэгіянальная газета»** шукае
**рэкламнага агента**
Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельны, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце сваё рэзюмэ на адрас **reklama@rh.by.**

# Як зрабіць бяспечным адпачынак у вёсцы

**Школьны летнік закончыўся, самы час адправіць дзіця ў вёску. Бацькам, бабулям і дзядулям неабходна прыгадаць, як зрабіць адпачынак дзяцей бяспечным.**



Фота rozrava.by

Няхай адпачынак у вёсцы стане цудоўнай бяспечнай прыгодай для вашага дзіцяці.

### Касцёр

У вёсцы ў бабулі ў першыя ж дні канікулаў «гарадскія ўнукі» ўзялі запалкі і за агародам расклалі вогнішча, каб пасмажыць хлеб. Шызы дымок своечасова заўважыў сусед.

Адпраўляючы дзяцей у вёску ці на лецішча, нагадайце пра небяспеку гульняў з запалкамі, захоўвайце іх у недаступных для дзяцей месцах, не дазваляйце карыстацца газавымі прыборамі, паўтарыце з дзіцем нумары тэлефонаў экстранных службаў.

### Будоўля

На суседняй вуліцы поўным ходам ідзе будаўніцтва дома. З раніцы да вечара на ўчастку працуюць будаўнікі. Як толькі сыходзяць, падцягваецца дзятва. Лепшага месца для гульняў не знайсці! Забаранілі гуляць на будоўлі дзецям толькі тады, калі Ваня падвярнуў нагу, а Даша разбіла калена.

Дарагія дарослыя, калі ў вас доўгатэрміновае будаўніцтва або рамонт, абгарадзіце небяспечныя ўчасткі. Прылады і матэрыялы прыбірайце ў недаступныя для дзяцей месцы, дастаючы іх па меры неабходнасці.

### Купанне

Дзятва шумлівай кампаніяй адправілася на возера. Бабуля Ягора патупала следам. Здаецца, і глыбіня ў возеры – вераб'ю па калена, ды толькі летась нацярпеліся ўсе страху, калі, адпачываючы на возеры разам з маладымі бацькамі, чатырохгадовы хлопчык чабултыхнуўся ў ваду і ледзь было не патануў.

Не адпускайце дзіця купацца адно, заўсёды кантралюйце сітуацыю. Будзьце ўдвая пільныя, калі дзіця плавае з надзіманым кругам. Не дазваляйце купацца больш за 10 хвілін, ныраць у незнаёмых месцах, сваволіць на вадзе.

### Агарод

Вёска – гэта не толькі адпачынак, але і догляд за садам і агародам. Калі вы апрацавалі гародніну хімікатамі, абавязкова абнясіце тэрыторыю якой-небудзь агароджай і растлумачце дзіцяці, што заходзіць туды строга забаранілі, а тым больш зрываць і спрабаваць на смак усё тое, што зелянее, жаўцее або чырванее на градках.

Прыбярыце лекі і хімічныя рэчывы, неабходныя як для сада-агарода, так і для бытавых патрэб, у недаступныя месцы. Паклапаціцеся пра тое, каб на ўчастку не было атрутных раслін. Калі недалёка знаходзіцца лес, пакажыце і раскажыце дзіцяці, якія расліны і ягады нельга чапаць і тым больш есці.

Не ператварайце канікулы дзяцей у адно суцэльнае «нельга». Проста будзьце пільныя.

### Некалькі парадаў для бацькоў

Не падпускайце дзяцей да мангалаў, калі смажыце шашлыкі.

Усе ёмістасці з гаручымі вадкасцямі, размешчаныя на тэрыторыі лецішча або прыватнага падворка, павінны быць надзейна зачыненыя і да іх павінны быць абмежаваны доступ дзяцей.

Цяжкія і вострыя інструменты (граблі, рыдлёўкі, лесвіцу) стаўце далей ад дзяцей.

Сачыце, дзе, з кім і ў што гуляе ваша дзіця.

Нагадайце правілы дарожнага руху і агаварыце, дзе яно будзе катацца на роварах.

**Валянціна СОПАТ, Маладзечанскі ГРАНС.**

# Сто разоў падумай, перш чым выпіць піва на пляжы

## 11 чалавек прыцягнулі да адказнасці за распіванне на прыродзе

МАЛАДЗЕЧНА

**У чатырох месцах масавага адпачынку Маладзечаншчыны грамадскую бяспеку і дарожную забяспечвае міліцыя.**

Падрабязней пра гэта расказалі ў Маладзечанскім РАУС.

Маладзечанскі райвыканкам дазволіў работу пляжаў на вадаёмах Удранка ля Радашкавічаў, філіяла санаторыя «Сасновы Бор», у Беразінскім, доме адпачынку «Алеся».

Кантралююць стыхійныя месцы адпачынку. У ходзе мерапрыемстваў 38 чалавек прыцягнулі да адказнасці за з'яўленне ў грамадскім месцы ў п'яным выглядзе.

### Што чакае парушальнікаў

**Арт. 15.58. Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.** Адказнасць за распальванне вогнішчаў у забароненых месцах. Штраф да 12 базавых велічынь (больш за 200 рублёў).

**Арт. 17.1. Кодэкса.** Нецэнзурная лаянка ў грамадскім месцы, абражальнае прыставанне да грамадзян і іншыя наўмысныя дзеянні, якія парушаюць грамадскі парадак, дзейнасць арганізацый або спакой грамадзян. Штраф да 30 базавых велічынь (больш за 500 рублёў), адміністрацыйны арышт.

**Арт. 17.3.** Адміністрацыйная адказнасць за распіванне алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва ў грамадскім месцы або з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап'янення, спажыванне ў грамадскім месцы наркатычных сродкаў ці псіхатропных рэчываў без прызначэння доктара, або спажыванне аналагаў наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў. Штраф да васьмі базавых велічынь (больш за 100 рублёў).

**Арт. 23.63.** Купанне ў забароненых месцах. Штраф да трох базавых велічынь (больш за 50 рублёў).

**Аддзел інфармацыі.**

# Не трымайце напружанне і адпускайце думкі

## Якія сакрэты доўгага і здаровага жыцця раскрыў прафесар усходняй медыцыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Трэнеры з Маладзечна Барыс Прадуха і Віктар Самко пабывалі на міжнародным семінары па аздараўленчым ушу і цыгун у Мінску. Навучанне праводзіў грандмайстар школы ушу «Хонг За В'етнам» прафесар усходняй медыцыны і іголкатэрапіі Лі Хонг Таі.**



Фота забяспечана Барысам ПРАДУХАМ.

Мы падзелімся з вамі парадамі для падтрымання здароўя, якія рэкамендаваў прафесар.

– У вас халодная краіна, вам трэба шмат рухацца, каб захаваць нармальную тэмпературу ўнутры цела. Яна павінна быць не ніжэй за 37 градусаў, інакш будзеце пастаянна хварэць, прастуджвацца, а ў «замёрзлых» органах высокі шанец узнікнення анкалагічных клетак. Таму я пакажу практыкаванні, якія распрацаваныя яшчэ ў 16 стагоддзі. Іх рабілі ўсе манахі даоскіх манастыроў, і жылі яны не менш за 90 гадоў. Мая маці пражыла 102 гады, і яна штодня рабіла такія практыкаванні.

Такімі словамі пачаўся тыднёвы семінар майстра, які пражыў у манастыры каля 30 гадоў, трэніраваўся ў пячорах гор і перамагаў у паядынках лепшых байцоў. Сярод іх – легенда Кітая Іп Ман, настаўнік Бруса Лі.

**У гэтым манастыры некалькі стагоддзяў рыхтавалі целаахоўнікаў імператара, таму ў ім выкладалі высокі ўзровень баявых мастацтваў і медыцыны. Пасля прыходу камуністычнага рэжыму манастыр закрылі. Сям'я грандмайстра Лі Хонг Тая пераехала ў В'етнам.**

За тое, што в'етнамцы добрасардэчна прынялі манахаў, у назве школы з павагі да краіны ўнеслі слова «В'етнам». Ужо пазней у 90-я Лі Хонг Таі пераехаў у ЗША, дзе і знаходзіцца сусветны цэнтр старажытнай школы. Штогод аматары ўшу ў Беларусі запрашаюць майстра да сябе.

### Чаму шкодна напружвацца

Сёлета 66-гадовы майстар сабраў шмат энтузіястаў здаровага ладу жыцця, якія вывучаюць старажытныя веды даоскай медыцыны.

– Вы вельмі заціснутыя і трымаеце пастаяннае напружанне ў свядомасці і мышцах. Гэта вельмі дрэнна для кровазвароту. З-за заціскання мышцаў кроў не можа забяспечыць нармальнае паступленне кіслароду ў тканкі, і таму ўзнікае кіслароднае галаданне, напрыклад, у нагах. Гэта выклікае боль, спазмы, праблемы з сасудамі. Напружанне можа справакаваць інсульт ці інфаркт. Паглядзіце на жывёл. Ніхто не ўтрымлівае напружанне, усё шукаюць паслабленне. Бусел можа без прыпынку ляцець 1000 кіламетраў, таму што ўвесь час расслабляецца і выкарыстоўвае рэбры пры дыханні.

**Вы ж сціскаеце рэбры і хутка задыхаецеся пры нагрузцы. І жаліцеся на стомленасць, скаванасць, боль, ранняе старэнне.**

Мы праводзілі даследаванні ў ЗША сумесна з міністэрствам аховы здароўя па тэме астмы. Аказалася, што астматыкі не ўмеюць дыхаць і рухацца, яны затрымліваюць дыханне, што выклікае спазм. Пасля трэніровак па нашай методыцы прыступы спыняліся. Нашы рэкамендацыі па дыханні ляглі ў метадычны матэрыял для МНС пры аказанні першай дапамогі пры нервовым зрыве.

Таксама мы прынялі ўдзел у вялікім даследаванні па лейкеміі. У ЗША моцна павялічылася колькасць захворванняў на рак крыві. Прычына – «зацвярдзенне» спіннога мозгу, які выпрацоўвае клеткі крыві. Часта адзіны шанец выратаваць чалавека – замяніць спінны мозг. Мы прыйшлі да высновы, што адной з прычын лейкеміі можа быць доўгае сядзенне за камп'ютарам, калі спіна нерухомая. Гэта нейкім чынам можа парушыць уласцівасці спіннога мозгу, і ён можа пачаць як бы «засыхаць» і губляць свае функцыі.

### Медытацыя – каб усе праблемы адступілі

Некалькі дзён семінара былі прысвечаныя праблемам суставаў, артрыту і артрозу, якія ўсё часцей сустракаюцца нават у маладых людзей як з-за камп'ютара, так і з-за нікаціну і алкаголю, якія вымываюць з суставаў храстковыя тканкі.

Заняткі ў Мінску пачыналіся ў 06:30, на досвітку. Дзіўна, але калі ўстаць з сонцам, то сіл вельмі шмат, іх хапае на цэлы дзень. Раніцай вывучалі аздараўленчыя практыкаванні і дыханне. Потым збіраліся ўжо ўвечары і вывучалі таямніцы баявых практык. А познім вечарам для ахвотных праходзіў клас медытацыі. Некаторыя прыязджалі спецыяльна для гэтых заняткаў.

Медытацыя – гэта праца з думкамі, духам. Цела пры гэтым проста расслабляецца і адпачывае. Вельмі важна спыніць думкі, якія сапраўды «крадуць» шмат энергіі і часу. Трэба перастаць думаць, перажываць, непакоіцца, крыўдзіцца, варта забыць усё дрэннае і стаць дзіцем, якое глядзіць на гэты свет, поўны фарбаў і любові.

**«Будзьце, як дзеці» – гэта не пустыя словы, а ключ да спакою і міру ў душы. 30 хвілін медытацыі даюць адчуванне палёту і спынення ўсіх трывог. Здаецца, што ты не маеш вагі, ляціш высока ў небе, а ўнізе зямля і маленькія людзі.**

Знікае адчуванне межаў, успамінаеш сваё дзяцінства, шчаслівыя моманты і самую шчырую любоў мамы і таты. Цела памятае ўсё гэта як самую каштоўную падзею. Пасля медытацыі прыходзіць адчуванне, што ніякіх праблем няма ўвогуле, усе яны лёгка вырашаюцца і не вартыя ўвагі. З'яўляюцца сілы жыць, энергія струменіцца з гарачых далоняў і ступняў, як быццам спаў суткі.

Я сем год вучуся ў Лі Хонг Тая, пачынаў вывучаць ушу ў Віктара Самко, затым у Акадэміі спорту, універсітэце Ханза і вышэйшай школе масажу ў Нідэрландах. Віктар Самко вядзе заняткі ў Мінску. А ў Маладзечне пакуль ніхто не займаецца гэтым. Магчыма, атрымаецца сабраць ахвотных дзяцей і дарослых і пачаць аздараўленчыя заняткі ў Маладзечне. Я пра гэта мару.

**Барыс ПРАДУХА, Маладзечна.**

Даведка «РГ».
Ушу – комплекс традыцыйных кітайскіх ваенных мастацтваў.
Цыгун – комплексы традыцыйных практыкаванняў, што ўзніклі на аснове даоскай алхіміі.



## Працы Міколы Лінніка выстаўленыя ў Палацы мастацтва

**20 чэрвеня ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага Саюза мастакоў Палаца мастацтва адкрылася выстава «Шлях Альгерда».**

Яна прысвечаная бліскучай перамозе войскаў Вялікага Княства Літоўскага над татарамі ў бітве на Сіняй Вадзе восенню 1362 года.

Выстава стала спалучэннем розных мастацкіх жанраў. Прадстаўленыя карціны **Міколы Купавы**, **Міхася Басалыгі**, **Аляксея Пшонкі**, **Юрася Каралевіча** і **Ягора Батальёнка**, выцінанка **Ніны Сакаловай-Кубай**, габелены **Марыны Грудзінавай** і **Ніны Пілюзінай**, медалі **Аляксандра Зіменкі**, фота і фотарэпрадукцыі **Міколы Лінніка**, фота **Міколы Купавы**, **Аксаны Спрынчан** і **Георгія Ліхтаровіча**, рэканструкцыя зброі рыцарскага клуба «Белы ліс».

МіколаЛіннік нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Порычы Валожынскага раёна, доўгі час жыў і працаваў у Радашкавічах. Цяпер жыве ў Мінску.

Удзельнікі выставы мастацкімі сродкамі паспрабавалі паказаць шлях Альгерда ад Вільні да Сіняй Вады – рэчкі Снівады – у Вінніцкай вобласці на тэрыторыі Украіны. На выставе можна ўбачыць партрэты вялікіх князёў Альгерда і Кейстута, іх брата Любарта, узбраенне літоўскіх і татарскіх ваяроў, беларускія і ўкраінскія шляхі, рэчку Снівада, поле бітвы, знакамітую «Пагоню».

Тэма бітвы на Сіняй Вадзе асвятляецца творцамі Беларусі, і кожныя пяць гадоў вынікі іх працы дэманструюцца ў Палацы мастацтва і іншых выставачных залах.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як плача дах і дыхаюць нябёсы

## Піша ў новым зборніку вілейскі паэт Уладзімір Цанунін

**Таленавіты вілейскі паэт член Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Цанунін парадаваў нас выпускам чарговага паэтычнага зборніка пад назвай «Страчанае рэха», дзе змешчаныя вершы аб прыродзе.**




Паэт Уладзімір Цанунін.

Яго можна лічыць працягам кніжкі «Пушчанскія галасы»; і тут кожны слупок прымушае чытача разам з аўтарам перажываць пачутае і ўбачанае. Так што мінскае выдавецтва «Колоград» не памылілася, паднёсшы чытачам такі сюрпрыз.

Надрукаваная на афсетнай паперы і афармленая ў цвёрдым пераплёце, кніга на 75 вершаў адразу прыцягвае да сябе ўвагу. Шкада, што тыраж малы – усяго 99 экземпляраў.

Ужо самі падраздзелы зборніка сведчаць аб вобразнасці, да якой звяртаецца аўтар: «Заплакаў дах капежам», «Нябёсы дыхаюць блакітам», «Пасівела неба над ракою».

Кніжка пачынаецца вершам «Вясенні перазвон». І той, хто неараўнадушны да прыроды, з радасцю знаёміцца з радкамі:

*Капеж у вёсцы*
*дацямна*
*Звініць няспынна…*
*Прыйшла жаданая*
*вясна*
*У мае мясціны.*

Чытачу дадзенае права падумаць, а чаму капеж звініць толькі дацямна? А таму, што ноччу – замаразкі.

Паэт ніколі не праходзіць міма трагічных падзей, хоць гэта іншы раз тычыцца драпежнікаў, і перажывае разам з намі. У вершы «Мацярынскі інстынкт» старая ваўчыца, у якой засталося толькі адно дзіцянё (астатніх «разадралі ганчакі»), пад «вываратнем чорным, у галлі, схавала ваўчанё, каб людзі потым яго тут выпадкова не знайшлі». І раптам ёй бок прабіла шротам. Лізнуўшы гарачым языком рану, ваўчыца з апошніх сіл «Старанна маскіравала веццем уваход». І выснова аўтара:

*Нам у яе няшкодна*
*павучыцца*
*Адказнасці за лёс*
*сваіх дзяцей.*

У вершы «Паядынак» паэт ужо не за ваўчыцу з ваўчанём перажывае, а за ласіху, што капытамі абараняе дзіцянё, якое толькі што нарадзілася.

*Ласіха, як заўсёды*
*ў час такі,*
*Не кіне ласяня ваўкам*
*на згубу.*
*І паляцяць*
*у розныя бакі*
*Скрываўленыя*
*выбітыя зубы.*

Назіраючы за жыццём бароў і пушчаў, Уладзімір Цанунін паказвае, як там штогод сярод буйных парнакапытных ідзе барацьба за прадаўжэнне роду. З верша «Рэвы» мы даведваемся, як пушчанскія алені-рагулі «начамі заклапочана раўлі – сапернікаў на бітву выклікалі». І вось «у вераснёўскай цішыні… сыходзіліся два прыгажуны ў смяротным, але чэсным паядынку».

У заключэнне верша:

*На гэтую паляну*
*кожны год*
*Збіраюцца*
*пушчанскія алені,*
*Каб вырашыць,*
*каму прадоўжыць*
*род,*
*Каму зваліцца*
*ў бітве на калені.*

Па змесце з вершам «Рэвы» пераклікаецца верш «Страчанае рэха», які даў назву зборніку. Самцы-алені збіраюцца на бой, каб іх род «у пушчы не загінуў і лес убачыў новых аленят».

*Над пушчаю лунала,*
*нібы мроя,*
*У вершалінах*
*страчанае рэха.*

Трэба быць вялікім назіральнікам, каб вобразна апісаць і паводзіны дробных лясных насельнікаў: яшчарак, вожыкаў, вужоў, змей, вавёрак, мурашак, чмялёў, дзікіх пчол. І мы перажываем, калі зімой лесарубы спілавалі старую асіну, у якой было пчалінае гняздо, а ў сотах нямала мёду. Лесарубы паклалі іх на снег і рагаталі. На паляне засталіся пчолы, якім не дажыць да вясны.

Чытаеш такія радкі і думаеш: «А хіба нельга было да пачатку лесапавалу вывучыць кожнае дрэва?».

На гэты ж раз, знаёмячыся з чарговымі вершамі («Асілкі»), здзіўляешся працавітасці мурашак. Адзін «вялізнага жука ўзваліў на вузенькія плечы. Другая кволая малеча цягнула ўпарта чарвяка».

І высноа аўтара:

*Бадай, не знойдзецца*
*ў прыродзе*
*Асілкаў большых,*
*чым яны.*

І сапраўды: ніводная жывая істота не пацягне груз, які перавышае яе ў вазе ў 50 разоў!

Не застаецца паэт раўнадушным ні да адной пары года, асабліва, здаецца мне, да восені. Раздзел «Пасівела неба над ракою…» адкрываецца вершам «Скрозь восеньскі ажур», праз які

*Сачыла сонца*
*позіркам чырвоным*
*За сумным клінам*
*шэрых жураўоў.*

Іх самотны крык «з царкоўным звонам зліўся ў вышыні».

*Скрозь восеньскі ажур*
*гадоў мінулых*
*Юнацтва ва ўспамінах*
*наплыло.*

Знайшлося ў кніжцы месца і для апісання паводзін насельнікаў вадаёмаў, асабліва рэк. Баброў паэт называе «калматымі будаўнікамі», якія ўмеюць валіць дрэвы і з дапамогай сплеценых галінак узводзяць плаціну, якую яны старанна затынкоўваюць глеем («Будаўнік»).

А вось ліні, схаваўшыся гуртам у цёплы сапрапель, заўважылі шчупака, які «вылятаў імкліва збоку», імгненна зніклі глыбока ў муці («Ліні»).

З верша «Шчупак» я даведаўся, што гэта драпежная рыба з'яўляецца не проста драпежнікам, але і санітарам. Бакі яго паласатыя – нябачныя ў чароце, таму шчупак у такіх месцах і робіць засаду, чакаючы не малькоў, а больш буйную хворую ахвяру.

*Яму дала прырода дар:*
*Атакаваць,*
*нібы ракета,*
*Бо ён –*
*мясцовы санітар,*
*А мы забыліся*
*пра гэта.*

Пра людзей у зборніку амаль што нічога не апавядаецца, хіба толькі пра тое, як яны разам з дрэвамі бяздумна нішчаць дзікіх пчол, а браканьеры ставяць петлі на звяроў.

Асобна ад іншых, дзе ўпамінаюцца людзі, стаіць верш «Поле Драздовіча» – расказ пра беларускага мастака, этнографа, фалькларыста, археолага і пісьменніка Язэпа Нарцызавіча Драздовіча, які праславіўся не толькі сваёй вучонасцю, але і тым, што, ходзячы па вёсках, маляваў насценныя дываны пра прыроду.

*Яго з ускраіны сяла,*
*Дзе далі хлеба*
*і напіцца,*
*Дарога лёсу завяла*
*У палі бязмежныя*
*пшаніцы.*

*Блакітам пырскаў*
*небакрай.*
*У каласах віхор*
*сваволіў.*
*Навокал быў*
*Язэпаў рай,*
*Дзе адчуваў ён*
*шчасце волі.*

Любіць Уладзімір Цанунін наваколле, усю прыроду. І хоць нарадзіўся на беразе іншай рэчкі, але Вяллю прызнае як родную матухну.

*Мой ветразь надзімае*
*вецер,*
*І лодка ўдаль бяжыць*
*сама.*
*Здаецца, што*
*ў бязмежным свеце*
*Другой такой ракі*
*няма.*
*(«Вялля»).*

З ім могуць пагадзіцца многія, каго лёс звязаў з гэтай ракой.

Уладзімір Цанунін, як майстар класічнай паэзіі, стараецца пазбягаць дзеяслоўных рыфмаў. Тое ж наглядаецца і ў папярэдніх яго кнігах. Толькі зрэдку, нібы супраць яго волі, могуць праскочыць ў рыфмаваныя радкі дзеясловы «прыняў-браў», «буркоча-сочыць», «расцвіла-распляла», «спрабуе-турбуе». Дзеяслоў, вядома, усё роўна ў рыфму трапляе, але ўжо са словамі іншых часцін мовы: «дурманіў – у тумане», «мяжы-бяжыць», «плыве-траве» і г.д.

З аўтарам «Страчанае рэха», які сцвярджае, што паэт павінны пазбягаць дзеяслоўных рыфмаў, можна і паспрачацца. Для прыкладу возьмем Янку Купалу, у якога такіх рыфмаў хоць адбаўляй. Але ад іх купалаўская паэзія не траціць свайго сэнсу. Спашлюся на славуты верш «Я мужык-беларус», у якім амаль у кожным слупку трапляюцца дзеяслоўныя рыфмы. А ў двух слупках на восем радкоў іх таксама восем:

*Сошку з вышак*
*сцягнуў,*
*Кабылічку ўшчаміў,*
*Плечы трохі прыгнуў –*
*Лес на пахаць зрабіў.*

*Эй, каб цёмен не быў,*
*Чытаць кніжкі*
*ўмеў, –*
*Я б і долю здабыў,*
*Я б і песенькі пеў.*

Аднак будзем прытрымліваўца паэзіі Цануніна, які ў падборы рытму і рыфмы выяўленчых сродкаў, думаю, стаіць на правільным шляху. Нам ёсць з каго браць прыклад. Пачаткоўцу ж Янку Купалу не было ў каго вучыцца.

**Барыс МАНЦЭВІЧ,**
**член Беларускага Саюза журналістаў з 1958 года.**

# Помнікі невядомаму Пілсудскаму і чортавы камяні, што водзяць па лесе

## Падарожныя нататкі краязнаўцы з Мядзельшчыны

МЯДЗЕЛ

**На пачатку лета я з краязнаўцамі-валанцёрамі падарожнічаў па Мядзельшчыне. Яркіх эмоцый і ўражанняў хапіла надоўга. Падарожнымі нататкамі дзялюся з чытачамі «Рэгіянальнай газеты».**

### Пабачылі крыж паўстанцам і расколатую таблічку

Першым пунктам нашага падарожжа стала мястэчка Княгінін, што месціцца побач з аўтадарогай Мінск-Мядзел. Калісьці на месцы аграгарадка размяшчаліся асобныя вёскі Васюлькі, Міцькавічы і маёнтак Стара-Княгінін.

На прасторнай плошчы размясцілася драўляная праваслаўная царква, якая захавала ў сабе рысы ўніяцкага дойлідства. Галоўная мэта, дзеля якой ішлі ў Княгінін, – крыж на брацкай магіле паўстанцаў 1863 года. Сталая жанчына, што ішла побач, паведаміла, што якраз жыве каля гэтага месца. Яна распавяла, што сама нарадзілася ў вёсцы Брусы. Большую частку жыцця пражыла ў Казахстане ў Паўладарскай вобласці. Паколькі эканамічная сітуацыя там цяпер не самая лепшая, разам з мужам пераехалі ў Княгінін.

Велізарны металічны крыж прывезлі з Вільні і ўсталявалі ў пачатку 20 стагоддзя. Крыжы мы пабачылі ўпрыгожаны кветкамі, трава вакол была скошаная. Невялікі квадрат зямлі вакол крыжа агароджаны маленькім плотам жоўтага колеру.

У кагосьці была ідэя пафарбаваць агароджу ў бела-чырвоны колер. Аднак вырашылі зрабіць гэта ў наступны раз, бо напярэдадні было яшчэ шмат іншай работы. Металічная шыльда на крыжы ў цяперашні час расколатая на дзве паловы. Адна з іх згубілася.

**Тэкст на таблічцы абвяшчаў: «Па ўсіх забітых, якія спачываюць у магіле». Унізе тэксту былі імя і прозвішча кіраўніка маёнтку Стара-Княгінін.**

Проста ля крыжа штогод засяваецца калгаснае поле. У свой час трактар з плугамі і раскалоў таблічку на крыжы.

Зрабіўшы некалькі фотаздымкаў на памяць, паехалі ў суседняе мястэчка Крывічы.

### Прыбралі пахаванні польскіх жаўнераў

Пасля Другой сусветнай вайны Крывічы былі раённым цэнтрам. Пазней раён уключылі ў склад Мядзельскага.

Недалёка праходзіць чыгунка Маладзечна-Полацк. Многія жыхары з'язджаюць на працу ў Мінск.

Пры ўездзе на галоўную вуліцу на перакрыжаванні паварочваем направа і амаль адразу трапляем на каталіцкія могілкі. Уздоўж плота стройнымі радамі размешчаныя аднатыпныя крыжы на магілах польскіх жаўнераў. Упрыгожвае воінскае пахаванне бетонны абеліск, усталяваны яшчэ ў 1930-х гадах пры польскіх уладах.

Воінскае пахаванне польскіх жаўнераў стварылі ў Крывічах для выхавання польскага патрыятызму сярод мясцовага насельніцтва.

З асобных магіл бліжэйшых ваколіц былі перапахаваныя з вайсковымі ўшанаваннямі парэшткі польскіх вайскоўцаў. Яны цаной свайго жыцця спынілі ў маі 1920 года бальшавікоў пад камандаваннем **Міхаіла Тухачэўскага**. На некаторых крыжах ёсць надпісы: «5 невядомых салдат», «4 невядомыя салдаты».

Цяпер за могілкамі пригладае мясцовая школа. Усе магілы падсыпаныя жоўтым пяском. Аднак ужо прарасла трава. Абеліск пачарнеў ад часу і ў некаторых месцах пакрыўся мохам. Аб'ём працы быў каласальны, і першай думкай было, што нам, тром чалавекам, не хопіць сіл.



Дзмітрый Астаповіч (злева) і Вадзім Праўрацкі на могілках у Княгініне прыводзяць у парадак помнік.

Але старая прыказка кажа: вочы баяцца, а рукі робяць. Праца закіпела. Дзёран вакол магілак абкапалі, траву зрэзалі і выграблі. Два мурашнікі з усімі насельнікамі актыўна пратэставалі супраць уварвання на іх мірную тэрыторыю. Абеліск адпаліравалі шчоткай з металічнымі варсінкамі.

У цэнтры мястэчка, акрамя крам, ёсць піцэрыя. Прахалоднае памяшканне і напоі з халадзільніка былі якраз дарэчы. Пасля невялікага адпачынку зноў узяліся за працу з падвоенай энергіяй.

Мы паспелі вынесці дзёран і траву ў смеццевы бак. Падсыпалі жоўтым пяском абеліск. Сонца схілялася на захад. Трэба было спяшацца. Стомленыя, але задаволеныя, адправіліся ў Сваткі. Па дарозе ўбачылі мокры ад дажджу асфальт і зразумелі, як нам пашанцавала.

### Невядомы помнік невядомаму Пілсудскаму

Па дарозе ў Сваткі праязджаем міма вёскі Конікі. Успамінаецца легенда мясцовых жыхароў пра Чортаў камень. Гэта велізарны валун у лесе каля вёскі. Кажуць, хто яго знойдзе – з лесу не выйдзе. Чалавек будзе ўвесь час хадзіць па крузе. Толькі калі з галінак зрабіць крыж, палонны гэтага зачараванага каменя зможа выбрацца з лесу жывым і здаровым. Амаль як у гэтай легендзе атрымаліся нашы пошукі ў Сваткі.

**У вёсцы знаходзіцца помнік Уладзіславу Пілсудскаму, пра які доўгі час ніхто не ведаў.**

Адны даследчыкі сцвярджаюць, што гэта старэйшы брат Юзафа Пілсудскага. На думку іншых, ён толькі ўсяго стрыечны брат.

Дакладна вядома, што Уладзіслаў валодаў фальваркам Марцінава па суседстве з мястэчкам Сваткі. Пошукі помніка прывялі да крамы райспажыўтаварыства і каменнай аркі былой праваслаўнай царквы, якая згарэла ў гады Другой сусветнай вайны. Мясцовыя жыхары дзіўным чынам нічога пра помнік не ведалі.

**Вадзім ПРАЎРАЦКІ, Мядзел.**

**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

**1 ЛІПЕНЯ**

**190 гадоў** з дня нараджэння **Іпаліта Гараўскага** (1828 – ?), беларускага мастака-пейзажыста.

**85 гадоў** з часу выхаду (1933) пастановы СНК БССР аб арганізацыі Беларускага політэхнічнага інстытута на базе мінскіх хіміка-тэхналагічнага, будаўнічага, энергетычнага, тарфянога і харчовага інстытутаў (цяпер Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт).

**425 гадоў** з дня нараджэння **Альбрэхта Станіслава Радзівіла** (мянушка Абаронца праваў; 1593 – 1656), дзяржаўнага дзеяча Рэчы Паспалітай, пісьменніка, гісторыка, мемуарыста, аўтара і перакладчыка каталіцкіх рэлігійных твораў. Літоўскі магнат, князь, прадстаўнік роду Радзівілаў; падканцлер і канцлер вялікі літоўскі.

**3 ЛІПЕНЯ**

**Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Дзень Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.**

**4 ЛІПЕНЯ**

**1803.** 215 гадоў ад пачатку дзейнасці Віленскай навучальнай акругі, у якую ўваходзілі навучальныя ўстановы Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губерняў. У гэты час на тэрыторыі Беларусі было 25 сярэдніх і няпоўных сярэдніх і каля 130 пачатковых школ. Акруга існавала да 1917 года (у яе сістэме тады налічвалася звыш 7300 навучальных установ).

**5 ЛІПЕНЯ**

**80 гадоў** з часу прыняцця (1938) пастановы Прэзідыума ЦВК БССР аб стварэнні дзяржаўных архіваў Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай, Мінскай і Палескай абласцей.

**80 гадоў** з часу прыняцця (1938) пастановы Прэзідыума ЦВК БССР аб стварэнні Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР (першапачаткова знаходзіўся ў Магілёве; з лістапада 1963 г. – у Мінску; у 1992 – 1995 гг. – у складзе Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь; з 16 чэрвеня 1995 г. – Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі).

**1918.** Сёлета летам спаўняецца 100 гадоў з часу стварэння Беларускай партыі сацыял-федэралістаў (БПС-Ф). Узнікла ў выніку расколу Беларускай сацыялістычнай грамады. Кіраўнікі: Я.Варонка, С.Рак-Міхайлоўскі, А. Цвікевіч, К.Езавітаў, П. Крачэўскі і інш. Партыя выказвала інтарэсы гарадской і сельскай буржуазіі, часткі інтэлігенцыі. Распалася ў пачатку 1921 года.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Як засцерагчыся ад сонечнага ўдару

**Сонечныя і цеплавыя ўдары – небяспека летняга сезона. Часцей за ўсё ад іх пакутуюць людзі аслабленыя, якія маюць сардэчна-судзістыя захворванні, павышаны ціск, захворванні шчытападобнай залозы, атлусценне, пажылыя і дзеці.**

Сонечны ўдар можа адбыцца як падчас знаходжання пад прамымі сонечнымі промнямі, так і праз 6-8 гадзін пасля гэтага. У выніку перагрэву ўсяго арганізма нярадка можа здарыцца цеплавы ўдар, які праяўляецца амаль гэтак жа, як і сонечны.

Каб засцерагчыся ад сонечнага і цеплавога ўдару, неабходна выконваць некалькі нескладаных правіл.

**Што рабіць у спёку**

• Больш піць. Звычайна мы выпіваем каля паўтара літра ў дзень. Але ў спякоту аб'ём трэба павялічыць прыкладна ў тры разы. Папаўняць дэфіцыт вадкасці трэба звычайнай пітной вадой.

• Паспрабуйце ў самы гарачы час ад 12 да 16 не выходзіць на вуліцу і тым больш не хадзіць пад адкрытым сонцам. Не варта карыстацца наземным грамадскім транспартам і спускацца ў метро. Лепш сплануйце дзень так, каб у гэты час быць альбо на працы, альбо дома.

• Як мага часцей прымайце душ. Вада павінна быць пакаёвай тэмпературы, прыемнай для цела. А спроба астудзіцца ледзяной вадой – самы кароткі шлях да пнеўманіі, якая развіваецца з-за рэзкай змены тэмпературы. Вядома, і купанне ў адкрытых вадаёмах – нядрэнны спосаб ахаладзіцца, толькі не варта рабіць гэта на неабсталяваных пляжах і ў стаячай вадзе, якая пры такой спякоце становіцца зусім бруднай.

• Больш рухайцеся раніцай і ўвечары. Сядзячы лад жыцця ў такую спякоту прыводзіць да абвастрэння гіпертаніі, сардэчна-сасудзістых захворванняў і павышэння рызыкі развіцця трамбозу.

• Паспрабуйце змяніць рацыён. У гарачае надвор'е ўпор варта зрабіць на халодныя стравы. І лепш адмовіцца ад тлустых малочных прадуктаў і мяса. Абірайце рыбу і гародніну. Абавязкова саліце ежу. Пры высокай тэмпературы чалавек моцна пацее і губляе шмат натрыю.

• Алкаголь і гарачае сонца не сумяшчальныя. Рэзкае абязводжванне – адно з асноўных наступстваў алкагольнай інтаксікацыі.

• Старайцеся пазбягаць адзення з сінтэтычных матэрыялаў. Лепш падбіраць на спякотнае надвор'е рэчы з натуральнай бавоўны і лёну без дадаткаў. Хадзіць у майцы на вузкіх шлейках або з голым торсам у такое надвор'е – памылка. У спякоту не трэба распранацца. Лепш аддаць перавагу свабоднай вопратцы, якая максімальна закрывае рукі і ногі, не кажучы ўжо пра грудзі, жывот і спіну. Не саромейцеся насіць кепкі, панамы або капелюшы. Цеплавы ўдар адбываецца найчасцей, калі награваецца галава.

• У такую спякоту без кандыцыянера, вядома, не абысціся. Калі даводзіцца праводзіць у памяшканні з кандыцыянерам шмат часу, паспрабуйце размясціцца так, каб струмень паветра з яго не дзьмуў прама на вас, халоднае паветра прыводзіць да абвастрэння хранічных бранхітаў і развіцця пнеўманіі.

**Калі ў спякоту чалавеку стала дрэнна, дапамажыце перабрацца ў цень. Вызваліце грудную клетку, расшпіліўшы кашулю, паслабіўшы ціск у поясе, каўняры, рамяні. Апырскайце твар і грудзі вадой. Калі яму і далей кепска, лепш звярнуцца па медыцынскую дапамогу.**

**Паводле Смаргонскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

ТЭМА НУМАРА

# Ад кляшчоў на Маладзечаншчыне ўжо пацярпела больш за 100 чалавек

## Чацвёра заразіліся хваробай Лайма

**Якраз у чэрвені – пік актыўнасці іксодавых кляшчоў. Яны – пераносчыкі некаторых небяспечных інфекцый для чалавека і жывёл.**

Сярод тых кляшчоў, што жывуць у Беларусі, небяспечныя два віды – лясны і лугавы, радзей сустракаецца тайговы. Штогод рэгіструецца больш за 40 тысяч пацярпелых ад прысмоктвання кляшчоў. 60% выпадкаў здараецца ў сельскай мясцовасці.

На тэрыторыі Беларусі кляшчы пераносяць дзевяць інфекцыйных захворванняў. Лідзіруе Лайм-барэліёз – больш за 1400 выпадкаў за мінулы год па краіне. У Маладзечанскім раёне летась гэты дыягназ паставілі 11 пацярпелым, сёлета ўжо чатыры жыхары захварэлі на хваробу Лайма.

Найбольш верагодная прычына высокага ўзроўню захворвання на Лайм палягае ў тым, што жыхары ігнаруюць прафілактычны прыём антыбіётыкаў пасля прысмоктвання кляшча. Толькі 2,5% гэта робяць.

На другім месцы па частаце – клешчавы энцэфаліт. Ім захварэлі 136 чалавек у краіне. Пяць з іх – праз негатаванае казінае малако. Адзін выпадак у Гродзенскай вобласці закончыўся смерцю. У Маладзечанскім раёне ў апошнія гады клешчавы энцэфаліт не рэгістравалі.

У Маладзечанскім раёне сёлета ўжо 118 пацярпелых ад прысмоктвання кляшчоў, пераважна гэта дзеці.

**Па выніках лабараторных даследаванняў, у Беларусі кляшчы інфіцыраваныя Лаймам у 30,9% выпадкаў, а энцэфалітам – у 16,4%.**


Фота stopvreditel.com.

Многія кляшчы заражаныя адразу некалькімі ўзбуджальнікамі.

Акрамя гэтых хваробаў, іксодавыя кляшчы пераносяць узбуджальнікаў анаплазмозу, эрліхіёзу, рыкетсіёзу, мікст-інфекцыі. Больш за тое, кляшчы часта заражаныя адразу двума-трыма ўзбуджальнікамі.

**Як засцерагчы сябе**

Каб не сапсаваць сабе адпачынак на прыродзе, загадзя прымайце меры засцярогі:

• Памятаеце, што кляшчы жывуць у змешаных і лісцёвых лясах з густым травастоем і падлескам, а таксама ў скверах, парках, на дачных участках з высокай травой. Насуперак заканаранелай думцы, яны не падаюць з дрэў;

• Любімыя месцы прысмоктвання кляшчоў – участкі з тонкай скурай і багатым кровазабеспячэннем – падпашная, пахвінная вобласці, шыя, жывот, за вушнымі ракавінамі, валасістая частка галавы;

• Перад тым як прысмактацца, клешч можа на працягу доўгага часу шукаць месца для прысмоктвання, таму абавязкова кожныя паўгадзіны праводзьце сама- і ўзаемаагляды;

• Збіраючыся ў лес, паспрабуйце максімальна закрыць цела адзеннем, кашулю запраўце ў штаны, штаны – у боты. Звычайна кляшчы паўзуць уверх;

• Адкрытыя ўчасткі цела і вопратку апрацоўвайце рэпелентнымі прэпаратамі.

• Не ешце казінае малако без тэрмічнай апрацоўкі;

**Не здымайце і не цісніце кляшча голымі рукамі. Калі яго раздушыць ці дакрануцца, праз мікратрэшчыны на скуры можна заразіцца хваробай.**

**Калі клешч прысмактаўся**

• Яго неабходна ў самыя кароткія тэрміны выдаліць, бо пагроза заражэння ўзрастае прапарцыйна часу знаходжання кляшча на целе. Пажадана зрабіць гэта ў медыцынскай установе. Дарослыя звяртаюцца ў траўматалагічны пункт бальніцы №1, дзеці да 18 гадоў – у прыёмны пакой дзіцячай бальніцы.

• Калі такой магчымасці няма, то можна выдаліць кляшча самастойна з дапамогай баваўнянай ніткі альбо пінцэта.

• Пасля самастойнага выдалення неабходна звярнуцца ў тэрытарыяльную паліклініку да доктара-інфекцыяніста або ўчастковага тэрапеўта ці педыятра для прызначэння прафілактычнага лячэння і далейшага назірання. Дзеці звяртаюцца да доктара-інфекцыяніста ў дзіцячую паліклініку.

Для далейшага даследавання кляшча змясціце ў флакон з вадкасцю або вільготнай ватай.

• Бактэрыялагічнае даследаванне кляшчоў на наяўнасць узбуджальніка Лайм-барэліёзу робяць у Маладзечанскім занальным цэнтры гігіены і эпідэміялогіі па адрасе: Маладзечна, вул. Чкалава, 2-а.

• Пры неабходнасці можна правесці вірусалагічнае даследаванне кляшчоў на наяўнасць віруса клешчавага энцэфаліту ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры эпідэміялогіі і мікрабіялогіі па адрасе: Мінск, вул. Філімонава, 23, корпус 1.

**Святлана АНДРУШОЙЦЬ, энтамолаг Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**




Фота забяспечанае Марыяй СУМАЙ.

Удзельнікаў экспедыцыі «Гарады – ZeroWaste» настолькі паглынула праца ў Вілейцы, што сваё першае сэлфі яны зрабілі ўжо толькі ў наступным горадзе сваёй праграмы – Глыбокім.

# Ці нальюць вам квас, калі вы прыйдзеце са сваім кубкам?

## У Вілейцы – так!

ВІЛЕЙКА

**У мінулы аўторак, 26 чэрвеня, не ва ўсіх віляйчан атрымалася проста і хутка вынесці смецце. Да некаторых з іх падыходзілі дзяўчаты і хлопцы з цэлым шэрагам пытанняў: колькі разоў на тыдзень вы выносіце смецце? Ці сартуеце яго? Чаго не хапае Вілейцы, каб зменшыць аб'ёмы адходаў?**

Экалагічныя апытанні праводзілі валанцёры экспедыцыі «Гарады – ZeroWaste», якую ладзіць Цэнтр экалагічных рашэнняў (ЦЭР) пры ўдзеле арганізацыі «Жывое партнёрства».

Валанцёры цягам дня назіралі за паўсядзённымі звычкамі віляйчан: ці выкідваюць яны батарэйкі ў спецыяльныя кантэйнеры, ці бяруць у краму свой пакет, каб кожны раз не браць пластыкавую «майку».

Актывісты праводзілі эксперыменты ў крамах. Ці ўзважаць кліенту печыва, калі ён не захоча браць пластыкавы пакет, а прынясе свой палатняны мяшочак? І ці нальюць квас на разліў, калі кліент прыйдзе са сваім тэрмакубкам?

Валанцёрам яшчэ спатрэбіцца час, каб падвесці вынікі сваіх назіранняў. Але ўжо цяпер яны кажуць, што віляйчане адкрытыя да экалагічна сяброўскага ладу жыцця.

– Часам прадаўцы былі здзіўленыя нашым просьбам, але ж не адмаўлялі, – кажа валанцёрка **Аня Петушак**. – Відаць, што з такімі просьбамі да іх звяртаюцца не часта. Але ж кожны з нас можа завесці шматразовыя торбачкі і пакеты, а не прыносіць дамоў штодзень новы пластык. Тады гэта стане паўсядзённай практыкай, а прырода будзе толькі ўдзячная.

Акрамя валанцёраў Вілейку наведалі спецыялісты ЦЭР – **Марыя Сума** і **Наталля Блышчык**. Да іх далучылася віляйчанка **Ларыса Якавюк**, менеджар праектаў арганізацыі «Жывое партнёрства». Эксперты сустрэліся з прадстаўнікамі райвыканкама і жыхарамі горада, каб абмеркаваць экалагічныя праблемы, з якімі сутыкаецца горад, і разам падумаць над іх рашэннем.

Аб тым, якія парады спецыялісты пакінулі для Вілейкі і які вобраз віляйчан склаўся ў валанцёраў, чытайце ў наступным нумары «РГ».

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Праграма фестывалю-конкурсу «Адна зямля»

ВІЛЕЙКА

**Часткай фестывалю «Энергія маладосці» ў Вілейцы стане юбілейная «Адна зямля».**

Дванццаты фестываль-конкурс маладых выканаўцаў «Адна зямля» праводзіць у Вілейцы 30 чэрвеня.

**Праграма «Адной зямлі»**

- **11:00-11:15.** Урачыстае адкрыццё.
- **11:15-14:00.** Конкурс выканаўцаў першай і другой узроставых груп.
- **14:00-15:00.** Канцэрт аматарскіх мастацкіх калектываў.
- **15:00-17:30.** Конкурс выканаўцаў трэцяй і чацвертай узроставых груп.
- **17:30-19:30.** Канцэрт эстрадна-джазавага ансамбля і аматарскіх мастацкіх калектываў.
- **19:30-20:00.** Падвядзенне вынікаў, узнагароджанне пераможцаў.

«Адна зямля» – фестываль-конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні, які праводзяць па чарзе ў адным з раёнаў рэгіёна: Валожынскім, Маладзечанскім, Вілейскім, Мядзельскім, Ашмянскім, Смаргонскім, Астравецкім.

Першапачаткова заснавальнікамі фестываля сталі аддзелы культуры Маладзечанскага, Валожынскага і Ашмянскага райвыканкамаў і рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты». Пасля далучыліся прадстаўнікі іншых раёнаў Павілля.

Першы фестываль адбыўся ў 1999 годзе на стадыёне ў Чысці.

Штогод рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» уручае аднаму з удзельнікаў прыз глядацкіх сімпатый.

Летась фестываль-конкурс «Адна зямля» ладзілі ў Смаргоні.

**Аддзел інфармацыі.**

# Як у Маладзечне адсвяткуюць Дзень горада і Дзень Вызвалення

МАЛАДЗЕЧНА

**2 і 3 ліпеня на культурных пляцоўках Маладзечна пройдзе святкаванне Дня горада і Дня Незалежнасці. Адкрые праграму гарадское свята «Лавіся, рыбка!» і богаслужэнне ў храмах Маладзечна, завершыць акцыя «Спяваем гімн разам».**

**2 ліпеня**

**6:00-9:30.** Парк Перамогі – гарадское свята «Лавіся, рыбка!».

**10:20.** Перазвон і святочнае богаслужэнне ў храмах Маладзечна.

**10:30-11:00.** Старое Места – арт-інсталяцыя «Из чистого истока…», юбілейны велакрос і мотапрабег байкераў.

**11:00-12:00.** Парк Перамогі, мікрараён №11, раён ЗПМ – урачыстае адкрыццё дзіцячай спартыўна-гульнявой пляцоўкі.

**11:00-12:00.** Маладзечанская ААС ДТСААФ – конкурс вадзіцельскага майстэрства «Аўталэдзі-2018», выстава байкаў.

**14:00-18:00.** Цэнтральная плошча – пляцоўка «Юныя таленты нашага горада»: «Мы заўжды з табой» – канцэрт групы «Маладзечна»; «Горад здаровых людзей» – паказальныя выступленні спартсменаў па дзюдо, айкідо, ушу, боксе, грэка-рымскай барацьбе, мастацкай гімнастыцы; канцэрт пераможцаў творчых конкурсаў і фестываляў; паказ мадэляў подыум-школы Nagornykids; выстава студый авіямадэлявання.

**12:00-16:00.** Парк Перамогі – відэапалатка «Я люблю цябе, Маладзечна!» (запіс віншаванняў жыхароў горада).

**13:00.** Парк Перамогі – «Тэрыторыя здароўя» (вымярэнне ціску, вагі, раздача лістовак і буклетаў з інфармацыяй па прафілактыцы захворванняў, вядзенні здаровага ладу жыцця і інш.).

**13:00-18:00.** Парк Перамогі – дзіцячая гульнявая забаўляльная пляцоўка «Разам весела гуляць»: крэатыў-праект «Прастора для творчасці»; майстар-класы, арт-інсталяцыі, спартыўныя спаборніцтвы, настольныя гульні.

**12:00.** Стадыён пляжных відаў спорту – спартыўныя спаборніцтвы.

**13:00-18:00.** Парк Перамогі – літаратурны вернісаж «Маладзёжны лабірынт».

**12:00-15:00.** Амфітэатр – канцэрт духавога аркестра Гродзенскай пагранічнай групы, самадзейных калектываў Маладзечанскага раёна «Мой горад, прызнаюся табе ў любові!».

**15:00.** Парк Перамогі – паказальнае выступленне кінолагаў Смаргонскай пагранічнай групы.

**14:00-17:00.** Вуліца Прытыцкага – свята «Аранжавы фестываль у горадзе Сонца», арт-платформа «Мастацтва пад адкрытым небам».

**12:00-18:00.** Вуліца Прытыцкага – майстэрня мастакоў, выстава-продаж вырабаў народных рамёстваў, сувенірнай прадукцыі прадпрыемстваў горада і раёна; майстар-класы майстроў народных рамёстваў; выступленні творчых калектываў Маладзечанскага раёна.

**18:00-19:30.** Палац культуры – урачыстае мерапрыемства-ўшанаванне лепшых землякоў «Усім сэрцам з табой, мой горад родны!», прысвечанае 630-годдзю Маладзечна.

**23:00.** Цэнтральная плошча – канцэрт «Дыскатэка СССР».

**3 ліпеня**

**11:00-12:00.** Парк Перамогі – мітынг-рэквіем «Квітней, мая Радзіма – Беларусь!», прысвечаны Дню Незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

**12:00.** Цэнтральная плошча – паказальныя выступленні, плац-канцэрт вайскоўцаў 14-га Асобнага ордэна Чырвонай Зоркі палка ўрадавай сувязі Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

**14:00.** Палац культуры – закрыццё II адкрытага пленэра мастакоў «Маладзечна АРТ-2018».

**12:00-16:00.** Парк Перамогі – зона сямейнага вольнага часу «Ай да МЫ!».

**21:30.** Амфітэатр – святочны канцэрт з удзелам Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных Сіл «Квітней, мой край, пад небам жураўліным!».

**23:00.** Амфітэатр – грамадска-рэспубліканская акцыя «Спяваем гімн разам».

**Паводле «Маладзечанскай газеты».**

## «Чысць» апусцілася на апошняе месца

**СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА**

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе футбольны клуб «Чысць» 23 чэрвеня дома прымаў суседа па нізе турнірнай табліцы – «Баранавічы».

Гаспадары праігралі 0:1. Нічыю ўпусцілі за лічаныя хвіліны да канца матча.

«Смаргонь» дома гуляла з «ЮАС-Жыткавічамі». Гаспадары выйшлі наперад у першым тайме 1:0. Гол забіў **Артур Цішко**. У другім тайме госці на 64-й хвіліне зраўнялі лік. Матч так і завяршыўся 1:1.

«Смаргонь» з 14-ю ачкамі займае восьмае месца, «Чысць» апусцілася на апошняе. У каманды толькі пяць ачкоў пасля 12 матчаў.

## «Ашмяны-БДУФК» ідуць трэцімі

**АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА**

У чэмпіянаце Беларусі па футболе ў другой лізе «Ашмяны-БДУФК» 23 чэрвеня атрымалі перамогу ў гасцях. Ашмянцы перамаглі «Клецк» з лікам 3:1. Галы на рахунку **Купнеўскага**, **Шпачэнкі** і **Скварчэўскага**.

Пасля гэтай перамогі «Ашмяны-БДУФК» ужо ў тройцы лідараў. Маладзечанцы – у ліку дзвюх горшых каманд: у «Маладзечна-ДЮСШ-4» і «Бумпрама» з Гомеля толькі па чатыры ачкі.

## «Вілія» перамагла ў Нясвіжы

**ВІЛЕЙКА**

«Вілія» ў пятым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе ездзіла ў Нясвіж. Віляйчан 23 чэрвеня экзаменаваў мясцовы «Нясвіж». «Вілія» перамагла 2:1. Галы ў ёй забівалі **Павел Сільвановіч** з пенальці і **Яўген Вярбіцкі**.

Пасля пяці тураў «Вілія» паднялася на чацвертае месца з дзевяццю ачкамі.

Наступны матч каманда згуляе 1 ліпеня ў гасцях у Беразіно.

**Аддзел інфармацыі.**



Футбалісты дзякуюць заўзятарам за падтрымку.

# Колер настрою – зялёна-белы, або Як святкавалі юбілей фанаты «Маладзечна»

**МАЛАДЗЕЧНА**

**23 чэрвеня на гарадскім стадыёне адзначалі 20-годдзе фанацкага руху.**

Сум плаксівага неба не прыбаўляў настрою а 18 гадзіне суботняга вечара. Але хлопцы-фанаты заўсёды ведаюць, як зрабіць весялей на душы. Яны парадавалі гледачоў, што завіталі на стадыён – хто выпадкова, а хто свядома. Убранства сектара было больш святочным, чым звычайна: заўзятары намалявалі банер, а праз свой родны сектар расцягнулі шырокія бела-зялёныя стужкі.

Акрамя таго, падчас гульні балельшчыкі адзначаліся песнямі-скокамі і актыўным суперажываннем-падтрымкай сваёй каманды. Хаця часам здаецца, што фан-сектар існуе сам па сабе, а каманда гуляе сама для сябе. Як бы першыя ні гналі ў атаку апошніх – усё аказваецца дарэмным. З боку падаецца, што нічога не можа дапамагчы гульцам рухацца больш жвава, дзейнічаць з ахвотай і бляскам у вачах.

Крыху актывізаваў каманду прапушчаны мяч у пачатку другой паловы сустрэчы. На поле выйшаў дасведчаны паўабаронца **Алег Страхановіч** – футбаліст, які мае за плячыма выступленні ў вышэйшай лізе і за нацыянальную зборную. Разам з нападаючым **Сяргеем Лаворам** яны паспрабавалі наладзіць камбінацыйны футбол.

Але запалу хапіла ненадоўга, і ў апошнія хвіліны матча калі што і радавала вока, то настрой юбіляраў – фанацкага сектара. Нягледзячы на непрыемны лік на табло, яны працягвалі скакаць, размахваць бела-зялёнымі сцягамі і напяваць нешта вясёлае – радавалі і віншавалі самі сябе.

Калі прагучаў фінальны свісток, футбалісты накіраваліся да сектара, каб выказаць падзяку балельшчыкам, хаця б апладысментамі. Заўзятары павіталі гульцоў у адказ, і раптам хтосьці ў душэўным парыве выкрыкнуў: «Пацаны, здымайце футболкі і прыходзьце да нас, на завод!». «Гэта хто там такі разумны?» – агрызнуўся Дзола – Касцюк. Дзмітры – адзін са старажылаў каманды і мае павагу сярод фанатаў. Таму больш ніякіх рэплік не было. Гульцы накіраваліся ў распранальні, а фаны – у горад, іх свята працягвалася.

Гульня паміж камандамі «Маладзечна-ДЮСШ-4» і «Івацэвічы» скончылася з лікам 0:1. Пасля 10 праведзеных гульняў маладзечанцы займаюць апошні, 15, радок у турнірнай табліцы другой лігі.

**Сяргей УЛАДЫКА.**
**Фота аўтара.**

# У Смаргоні назвалі самую футбольную сям'ю

**СМАРГОНЬ, АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ**

**У Смаргоні 24 чэрвеня прайшоў сямейны фестываль «Тата, мама, я – футбольная сям'я».**

Арганізатары прынялі 41 заяўку на ўдзел ад сем'яў не толькі са Смаргонскага, але Астравецкага і Ашмянскага раёнаў.

Прайшлі міні-турніры па футболе ў пяці катэгорыях: сярод тат, мам, а таксама дзяцей у трох узроставых групах.

Трэцяе месца заняла сям'я **Ушакевічаў**.

Другое месца – у сям'і **Кухлеяў**. Званне самай футбольнай сям'і Смаргонскага раёна заваявала сям'я **Рашкевічаў** (тата – **Уладзімір**, мама – **Вольга**, дзеці – **Анастасія**, **Леанід**, **Павел** і **Уладзімір**). Яна набрала 240 балаў.

Сям'я Кухлеяў на абласным фестывалі ў Гродне ўжо заваявала права ўдзельнічаць у рэспубліканскім фінале фестывалю «Тата, мама, я – футбольная сям'я». Такім чынам у Мінск ад Смаргонскага раёна адправяцца тыя, якія занялі першае, трэцяе і чацвертае месцы (Рашкевічаў, Ушакевічаў і **Салавей**).



Фота з сайта сектара спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама.

Гуляюць юныя ўдзельнікі фестывалю.

Арганізатарамі і партнёрамі фестывалю сталі асацыяцыя «Беларуская федэрацыя футбола», прадстаўніцтва дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ), сектар спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама. Яны падрыхтавалі падарункі ўсім без выключэння ўдзельнікам. Галоўнымі з іх сталі футбольныя мячы, якія атрымала кожная сям'я. Пра гэта паведамляе сектар спорту і турызму Смаргонскага райвыканкама.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Творчы работнік у галіне выяўленчага мастацтва.
4. У славянскім фальклоры так часта называлі свабоднае, прыемнае і салодкае жыццё без праблем.
6. Драўляная ці металічная прылада з дзяржаннем і шырокім плоскім ніжнім канцом для капання.
7. Паводле італьянскага жарту, цяжэй за ўсё актрысам у балеце, таму што даводзіцца ўвесь час рабіць гэта.
11. Людзі хочуць, каб ён уключаўся. Але калі ўключаецца, злуюцца.
13. Дробныя, адшліфаваныя вадой каменьчыкі.
14. У веруючых – пасціць і хадзіць у царкву, рыхтуючыся да споведзі.
19. Зборка і ўстаноўка машын, збудаванняў з гатовых частак у адпаведнасці з планамі і чарцяжамі.
20. Вельмі смачны.
21. Паляўнічы сабака, прывучаны гнаць звера.
22. Пахавальны ўбор з белай тканіны для нябожчыка.
24. Паводле легендаў, Зеўс нарадзіўся менавіта на гэтым востраве.
26. Трапны лаканічны выраз павучальнага характару.
30. Эраста Фандорына гэта проста абурала. Падчас працэсу напалі па двое і па трое на аднаго. І ўсё з-за кавалка свіной скуры. Фандорын лічыў, што гэта не мае будучыні.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Чалавек або жывёліна незвычайна вялікага росту; волат, велікан.
3. Весці бізнес без яе – усё роўна, што падміргваць дзяўчыне ў цемнаце. Вы ведаеце, што робіце, а ўсе астатнія — не.
5. Менавіта яго каханнем усяго жыцця лічыў пісьменнік Чарльз Букоўскі.
8. Воінскія часці, размешчаныя ў населеным пункце, крэпасці.
9. Велічыня, якая паказвае адносіны работы да часу, на працягу якога яна выканаиая.
10. Прыемны спакой, хараство.
12. Фарба, якая пад дзеяннем кіслот набывае чырвоны, а пад дзеяннем шчолачаў сіні колер.
15. Рыгор Барадулін «...не ўзнікае так – Ён збываецца, адбываецца Як ратай, Як дзівак, Як мастак, Ад якога свет адбіваецца».
16. Невялікі паэтычны твор для спеваў.
17. Вялікая маса падаючага з гор снегу, лёду; снежны абвал.
18. У 1924 годзе ў гэтай вёсцы Мядзельскага раёна ўпаўнаважаны ад сялянаў падаў школьнаму інспектару прашэнне замяніць мясцовую польскую школу на беларускую. Інспектар адмовіў, спаслаўшыся, што «мала беларусаў».
21. Металічная дэталь розных формаў з адтулінай, што мае вінтавую разьбу.
23. Вышэйшая ступень задавальнення, адчуванне прыемнага.
25. Крывяносны сасуд, які нясе кроў ад сэрца да розных органаў цела.
27. Зборнік геаграфічных, гістарычных і інш. картаў, а таксама табліц, малюнкаў, чарцяжоў, схем.
28. Пра гэту рэч ёсць вядомае іранскае выказванне: «Іранцы кідаюць сваё багацце на падлогу».
29. Жывёліна ледавіковага перыяду з доўгай шэрсцю і вялікімі біўнямі.

## Адказы на крыжаванку з №25

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Баторына. 3. Гномы. 5. Звяно. 7. Букет. 8. Гарэлка. 11. Брыдж. 13. Чарапахі. 14. Парэчкі. 15. Каваль. 16. Перанос. 19. Завод. 20. Слоікі. 21. Бурбалка. 22. Будны. 24. Павага.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Першы. 4. Пагоня. 5. Зазімак. 6. Бровар. 9. Загар. 10. Вечар. 12. Эліза. 14. Падзея. 15. Кнопкі. 17. Тэніс. 18. Мурашы. 21. Бюджэт. 22. Баклажан. 23. Зрэнка.

## ● ГАРАСКОП 29 ЧЭРВЕНЯ – 5 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Абвострыцца інтуіцыя, а ўслед за ёй і ўвогуле разуменне першапрычын усяго таго, што адбываецца. Гэта дапаможа ў вырашэнні спрэчных сітуацый, навучанні і выкананні пастаўленых перад сабой планаў.



**ЦЯЛЕЦ.** У спрэчных сітуацыях прыслухоўвайцеся да ўласнай інтуіцыі, яна не падвядзе вас ні сёння, ні заўтра. Не хапайцеся за тысячу спраў адразу, больш выгадна выбраць нешта адно і на гэтым засяродзіць усю сваю ўвагу і намаганні.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы ў эпіцэнтры ўнутранай барацьбы: з аднаго боку вам неабходна абмяжоўваць сябе дзеля духоўнага развіцця, а з іншага – матэрыяльныя даброты і людскія радасці будуць вабіць вас з падвоенай сілай. Выбар за вамі.



**РАК.** Узмоцніцца ўплыў пазітыўных тэндэнцый, што дазволіць вам перавесці дух. Наступіць час цікавых сустрэч, прыемных зносін, маленькіх радасцяў, якія робяць жыццё яркім.



**ЛЕЎ.** Не спяшайцеся. Прысвяціце пэўнай справе больш часу, зрабіце яе якаснай і эфектыўнай. Інакш у ёй не будзе сэнсу.



**ДЗЕВА.** Абараняйце свае інтарэсы – толькі тады можна пазбегнуць страт. Змены ў асабістым жыцці не адбудуцца самі па сабе, прыкладзіце намаганні, каб усё змянілася да лепшага.



**ШАЛІ.** Развівайцеся духоўна, працуйце над сабой, жывіце з максімальнай аддачай, каб атрымаць цудоўныя вынікі. Нябесная сфера не застанецца ў даўгу. І не звяртайце ўвагі на дробныя падкопы лёсу, да канца месяца вы ўжо нават і не ўспомніце, што вас хвалявала цяпер. Наладзьце сустрэчу для абмежаванага кола людзей. Размовы, якія ні да чаго не абавязваюць, дапамогуць узнавіць баланс у вашых бурных эмоцыях.



**СКАРПІЁН.** Не спяшайцеся прымаць рашэнні, выкарыстайце вольны час для свайго задавальнення. У асабістым жыцці вы не будзеце праяўляць ініцыятыву, таму складзецца сітуацыя, калі рашэнні будуць прымаць за вас.



**СТРАЛЕЦ.** Цяпер напор энергіі ў вас будзе настолькі моцны, што ёй абавязкова трэба знайсці выйсце, інакш гэта выльецца ў канфлікты з блізкімі людзьмі. Навучыцеся майстэрству кампрамісаў, каб не страціць каханага. Уціхамірце сваю гарачнасць, праяўляйце разважлівасць. Шчасце – у вашых руках.



**КАЗЯРОГ.** Вас чакае нечаканы прыбытак, а таксама прыемныя нечаканасці на працы. Вы можаце нічога не рабіць, але ўсё будзе складвацца надзвычай спрыяльна.



**ВАДАЛЕЙ.** На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Каб гэтага не адбылося, трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе.



**РЫБЫ.** Каб аднавіць растрачаныя сілы, варта паназіраць за рыбкамі ў акварыуме. Не дапускайце староніх людзей і іх парады ў рашэнне ўнутрысямейных праблем. Займіцеся добраўпарадкаваннем жылля, абнаўленне падорыць вам лёгкасць і натхненне. Па ўласным жаданні ці па абставінах, якімі не ў стане кіраваць, вы можаце памяняць месца жыхарства. Абставіны могуць запатрабаваць ад вас імкнення да незалежнасці, а таксама большай самастойнасці ўнутры сям'і.

Марыя УРБАНОВІЧ.

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | | 2 | | 3 | | | 6 | |
| | | 8 | | | | 3 | 4 | 1 |
| | | | | 5 | | 8 | | 2 |
| 5 | | 1 | | | | 4 | | |
| 8 | | | | | | 6 | | 9 |
| | 9 | | 5 | | 3 | | 1 | |
| | | | | 7 | | 5 | | 6 |
| | | | | | | 7 | 2 | 4 |
| 2 | | | 3 | | | | 9 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

● НАДВОР'Е

## 30 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +25 | | +13 / +17 | | +10 / +12 | | +9 / +8 | |
| | 742 | ↘ 3 | 743 | ↓ 6 | 745 | ↓ 7 | 743 | ↘ 5 |
| Вільня | +15 / +25 | | +10 / +17 | | +10 / +13 | | +10 / +9 | |
| | 743 | → 4 | 745 | ↓ 7 | 747 | → 7 | 745 | ↗ 5 |

Тэмпература паветра; Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.); Хуткасць ветру м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 4.42
Захад 21.50
Даўжыня дня 17.08

Усход 23.10
Захад 6:48
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +4,6°C у 2007 годзе
Максімальная тэмпература +27,8°C у 2016 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 37,4 мм у 2011 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

● **Вы не раз чулі, што трэба сартаваць смецце, пластык шкодны, а пра экалогію павінны клапаціцца кожны. Аднак усё гэта застаецца нейкай далёкай ад вас праблемай? Валанцёры правялі ў Вілейцы эксперыменты, якія тлумачаць, чаму гэта важна для кожнага. Чытайце ў наступным нумары вынікі іх акцыі. Магчыма, і вы далучыцеся да тых, хто клапоціцца пра планету для нашчадкаў.**

## Прымай сонечныя ванны з «Рэгіянальнай газетай»!



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку,** калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Электрычка. Цыганка – мужчыну:
– Пазалаці ручку, дарагі! Усё, што хочаш скажу!
Мужык дастае 500 еўра:
– А скажы ты мне, галубка, перыяд паўраспаду радыю! Цыганка ў шоку, вочы вытарашчыла.
– Ну, бачыш, не заслужыла.

***

Я малілася, каб Бог даў мне добрага мужа. І Бог даў мне добрага мужа. А вось мой муж не маліўся. Яму дасталася тое, што дасталася.

***

Выраз «На пенсіі высыпішся» – нахабная хлусня. На пенсіі я буду прачынацца ў 6 раніцы, бясплатна катацца ў аўтобусах і злаваць усіх. Там не да сну.

Дачка прасіла дзень нараджэння ў стылі Папялушкі. Мы так і зрабілі. Самі пайшлі святкаваць, а яе пакінулі прыбіраць дом.

***

Парады бывалага адпускніка. Калі знаёміцеся на пляжы з дзяўчынай, не забывайце: чым больш моцны загар, тым бліжэй канец адпачынку!

***

Чарговая гулянка дома. Ну, трохі шумна, суседзі выклікалі міліцыю. Званок у дзверы.
– Хто там?
– Адчыніце, міліцыя!
– Не магу!
– Чаму?
– У нас закрытая вечарынка!
Рагаталі ўсе! Нават за дзвярыма.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## У якім узросце беларусам варта выходзіць на пенсію?



**Дзмітры Кутаеў, электраманцёр:**
– У той сітуацыі, якая склалася, здаецца, увогуле не выпадае выходзіць на пенсію. Цяпер пенсіянераў больш, чым працуючых. Каб выплачваць пенсіі, працаваць трэба ўсім і вельмі шмат. Я не хачу на пенсію. Бо калі на пенсіі сядзець перад тэлевізарам – мазгі перастануць працаваць і ператворышся ў гароднiну.



**Віталь Стрэйкіш, пенсіянер:**
– У 65 год – мужчынам. А жанчынам трэба раней. Яны ж дзяцей нараджаюць. Было, што жанчыны выходзілі ў 55. Можа, у 58 варта. Мае бацькі з Латвіі, і там даўно ўжо пенсійны ўзрост павышаны.



**Вольга Бурак, педагог:**
– Свабодны час трэба, калі дзяцей гадуеш. А вось калі дзеці падраслі, можна працаваць хоць да «пабеды». Мужчыны павінны ісці на пенсію пазней, усё ж такі гэта моцны пол. Год з пяць павінна быць розніца. А ўвогуле на пенсію варта адпраўляць у 58.



**Ілья Ракіцкі, навучэнец:**
– Я, напэўна, хацеў бы выйсці ў 50 год. І жанчыны, і мужчыны павінны выходзіць у аднолькавым узросце.



**Валянціна Рабая, пенсіянерка:**
– У 55 для жанчын, для мужчын – у 60. Канешне, павышаць не трэба. Нашто яно, людзі і так не дажываюць. Хочацца паспець унукаў паняньчыць, на лецішчы пасядзець. 55 – і пайшоў! Ужо пра тую работу ў такім узросце не думаеш.



**Яўген Макаранка, станочнік:**
– У 60 – мужчыны, жанчыны – у 55. Як і было. Гэта аптымальны ўзрост. Пенсіі не вельмі вялікія. Таму калі дзецям, унукам трэба дапамога – можна і папрацаваць пасля выхаду. Калі дзеці могуць сябе забяспечваць – можна адпачываць для сябе. Хаця такія пенсіі, што на іх не наадпачываешся.



**Гульнар Тагіева, студэнтка:**
– Напэўна, у 55 год. Мужчыны пазней, у 60. На пенсіі я хацела б працягваць працаваць.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№26 (1209) 29.06.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 314. Падпісана ў друк у 9.00 28.06.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by .**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.